# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 38 (395) | ГОД VIII | 22 ВЕРАСНЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР


НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## КАБ ЗІМОЙ НЕ МЕРЗНУЦЬ

Летам, вядома, хопіць падлажыць у печку хаця б ялаўцу ці нейкага другога хмызняку, а ўжо і абед гатовы, і страва жывёліне падрыхтавана. Інакш зімой. Найлепш было б купіць вугалю. Выгода ж якая! Зачарпнуў вядро, падсыпаў пад пліту і сядзі, грэйся, любуйся. Толькі дзе жыхару вёскі купіць вугаль?

— Гэта залежыць якому жыхару вёскі, — паясняе Ядвіга Пухальская, працаўнік ВЗГС-у, дасканалы знаток вельмі складаных метадаў забеспячэння вёскі добрым топлівам. — Пабач сялян на вёсцы, як самі ведаеце, жывуць настаўнікі, працаўнікі грамадзянскай міліцыі, аграномы, кіраўнікі святліц, бібліятэкары, фельчары, лекары, ветэрынары і другія людзі, крыніцай утрымання якіх **не з'ўляецца сельская гаспадарка.** Усе яны атрымоўваюць вугаль паводле гарадскіх надзелаў. Велічыня надзелу для іх залежыць ад колькасці асоб у сям'і і ад памяшкання, у якім жывуць.

**— А сяляне, звычайныя хлебаробы? Ці маюць магчымасць купіць сабе вугаль?**

— Толькі тады, калі гадуюць свіней або контрактуюць тытунь.

Ёсць так: калі селянін здае вепрука ў рамках абавязковых дзяржаўных паставак або калі здае некантрактаванага — тады мае права купіць па 2 кг вугалю за кожны кілаграм жывой вагі праданага вепрука. Абавязковыя пастаўкі, зразумела, мусіць селянін выканаць тэрмінова, бо інакш вугалю зусім не дастане.

**— А калі селянін закантрактуе вепрука?**

— Тады атрымлівае вугалю два разы больш — па 4 кг за кожны кілаграм жывой вагі дастаўленага тэрмінова кантрактаванага вепрука. У тым выпадку можа таксама атрымаць авансам, як задатак, 200 кг вугалю за кожную закантрактаваную штуку ўжо зараз пасля падпісання ўмовы на кантрактацыю. Гэта, так сказаць, асноўныя надзелы вугалю, з якіх могуць карыстаць сяляне. Апрача таго селянін можа атрымаць 350 кг вугалю ў год, калі гадуе пародзістую свінаматку

(Працяг на стар. 7)

## КАБ БОЛЬШ БЫЛО МЯСА І МАЛАКА

**Калі добрыя ўраджаі на палях, і сяляне багатыя сельскагаспадарчымі прадуктамі, шырэй развіваюць жывёлагадоўлю, тады і горад і ўся дзяржава належна забяспечаны вясковаю вытворчасцю. А калі неўраджайныя гады, тады і гаспадар і ўся краіна адчувае тыя ці іншыя недахопы ў прадуктах.**

**Апошнія два чарговыя гады не былі спрыяльнымі для сельскай гаспадаркі. У мінулым годзе надта халодная вясна і лета, а апрача таго празмерныя атмасферычныя ападкі, а ў гэтым годзе суровая зіма і недахоп дажджу — усё гэта моцна адбілася на ўраджаях. І вось гэтыя аб'ектыўныя прычыны некарысна дзейнічаюць на ўсю народную гаспадарку. Адчуваецца недахоп малака і мяса, аб чым добра ведаюць асабліва жыхары гарадоў.**

**Каб пазбегнуць у далейшым гэтых недахопаў, дзяржава наша зрабіла шмат захадаў, звязаных з матэрыяльнай зацікаўленасцю сялян, каб гэтыя недахопы як мага хутчэй ліквідаваць. Вось на гэтыя справы ў асноўным была сканцэнтраваная прамова першага сакратара ПАРП Уладзіслава Гамулкі на Цэнтральных дажынках у Варшаве.**

**Вельмі важнай справай з'яўляецца жывёлагадоўля. Каб утрымаць яе на дагэтуляшнім узроўні, а калі можна дык яе яшчэ і пашырыць, неабходна да гэтага мець чым карміць свінні і быдла. У сувязі з гэтым дзяржава ў бягучым гаспадарчым годзе пабольшыць дастаўкі высокаякаснага корму на 200 тысяч тон у параўнанні да мінулага года. За кожнага закантрактаванага кормніка гаспадар атрымае ў сярэднім 100 кілаграм высокаякаснай мяшанкі. Сяляне таксама будуць мець магчымасць атрымоўваць задатак у выглядзе корму за кожную закантрактаваную штуку.**

**Паралельна з продажам высокаякаснага корму на закантрактаваную жывёлу дзяржава створыць магчымасці жывёлагадоўцам на-**

(Працяг на стар. 2)

## ВАРШАЎСКАЯ ВУЛІЦА



## ВІНАВАТЫЯ?

ВЕРА ЛЕЎЧУК

Перад судом стаіць 12-гадовае дзіця — дзяўчынка. Вышэй масіўнага стала тырчыць толькі галава. І здзіўляешся, што ёй аж 12 год. Выглядае на 7. Адна пала шырокага палатнянага фрака вісіць адарваная. Сукенка павыцягваная, ногі тонкія і роўныя, як патыкі, ад ступні да кален.

Маўчыць. Суддзя кажа, як не хочаш са мной, Надзейка, гаварыць, то ківай галавой. Добра? Першы ківок. Зноў суддзя — ты ўзяла 100 зл.? Ківок. І што з імі зрабіла? Маўчанне, нават галоўка не рухаецца, нізка апушчана. Ты палажыла іх у сшытак за вокладку, так? Ківок. А на што ты ўзяла тыя грошы? Маўчанне. Твой тат. п'е гарэлку? Ківок.

Гэтае дзіця — адно з 8-мі дзяцей у сям'і, дзе бацька п'яніца, дзе маці ледзь вяжа канцы з канцамі. Ці зрэшты вяжа? Дзе дзеці бачаць адну нахабнасць і чуюць адны праклёны. Дзе малодшыя вучацца ад старэйшых памагаць сабе самі. Надзейка ўжо 4-тае дзіця з той сям'і, што папала ў суд і знаходзіцца пад наглядам судовага куратара.

Праўду кажучы то нават выгодным бывае для такіх бацькоў. Іх дзяцьмі апякуецца суд, апякуецца добра, яны вучацца, чаго больш трэба? Таму адлягае мне ад сэрца, калі суддзя гаворыць, што ў праекце новага кадэксу ёсць параграф, які кажа караць бацькоў за віны дзяцей. Мо' то і здзівіць не аднаго. Але ж ніхто, як самі людзі кажуць, злодзеем не родзіцца. А чаму ім стаецца? Сам па сабе, цудам? Выхаванне. Адказнасць бацькоў. Не новыя гэта рэчы. Ды пішучы аб дзецях перад судом, гэтае хачу падкрэсліць асабліва. Дзіця пападае, ці можа папасці ў суд толькі па віне бацькоў. Часта віна іх заключаецца ў занядбанні, часта ў распусце. Нічога не дазваляць і многа дазваляць, нічога не даваць і многа даваць, зусім не дбаць і хваравліва дбаць — гэта крокі аднолькава шкодныя. Усё мае сваю меру. Такія вывады насоўваюцца, калі даследуеш матэрыялы судовых працэсаў над дзяцьмі. Тут спаткаеш і дзяцей як Надзейка і дзяцей парадачных бацькоў (апошніх зрэшты наогул рэдка).

Злачынствы дзяцей — гэта амаль як правіла, пакражы, дробныя наогул. Некалькі прыкладаў. 13-цігадовы хлопчык украў супрацьсонечныя акуляры. Чаму? «Бо я не меў». Але гэты хлопчык не ведаў, што нават, калі не маецца свайго, нельга браць у іншых. Ніхто відаць яму гэтага не растлумачыў. Дзіця вельмі часта не разумее многіх правіл, якія кіруюць нашым цывілізаваным светам. І калі бацькі яму не вытлумачаць гэтага, дзіця робіць так, як папхне яго інстынкт, і пападае ў разлад са справядлівасцю, з правам, пападае пад суд.

Двух хлопчыкаў укралі голубі, бо вельмі любілі іх. Хацелі мець і гадаваць у сябе, а бацькі не дазвалялі. Ці таму, што не мелі грошай? Смешнае пытанне. Якраз бацько-

Працяг на стар. 4)

# XVIII СЕСІЯ ААН

Згодна з традыцыяй, у трэці аўторак верасня, менавіта 17 гэтага месяца, пачала сваю працу XVIII сесія ААН. Трэба аднак на самым пачатку сцвердзіць, што зацікаўленне ёю не з'яўляецца такім вялікім, якім яно было ў выпадку некалькіх мінулых сесій. Дзеецца так па дзвюх прычынах.

Перш за ўсё XVIII сесія, у супрацьлегласць да трох папярэдніх, не паставіла на парадак дня самых важных пытанняў, якія вырашаюць аб далейшым мірным развіцці свету. Зразумела, з пункту гледжання ўсяго чалавецтва важнымі, напрыклад, з'яўляюцца такія справы як поўная ліквідацыя каланіяльнай сістэмы ў Афрыцы, супольнае асуджэнне расісцкіх метадаў, пануючых у Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы ці вырашэнне курдскага пытання. Вядома аднак, што не гэтыя справы вызначаюць сёння далейшую дарогу для свету.

Самым важным пытаннем з'яўляецца ўмацаванне мірнага суіснавання паміж Усходам і Захадам. Справа заключаецца ў тым, каб Захад зрабіў вывады з падпісанага нядаўна ў Маскве пагаднення аб частковай забароне ядзерных выпрабаванняў. Савецкі Саюз са свайго боку гатоў да вядзення размоў не толькі аб поўнай забароне ядзерных і атамных выпрабаванняў, але таксама і аб выключэнні і знішчэнні гэтай зброі. Таксама ясную пазіцыю займаюць Савецкі Саюз і сацыялістычныя дзяржавы і па такіх пытаннях, як стварэнне безатамных зон у розных частках свету, ліквідацыя агрэсіўных баз на чужых тэрыторыях, а таксама змяншэнне канвенцыянальнай зброі.

Вядома, што гэтыя найважнейшыя для міру пытанні маюць большыя шанцы быць паспяхова вырашанымі ў непасрэдных размовах паміж вялікімі дзяржавамі, чымсьці ў ААН. Таму большыя надзеі спалучаюцца зараз з кулуарнымі размовамі, якія несумненна будуць адбывацца паміж міністрамі замежных спраў СССР, ЗША і Вялікабрытаніі. Гэта зусім нядрэнная з'ява, калі можа гэта прынесці свету далейшую разрадку.

Урэшце, другім фактарам, змяншаючым зацікаўленне цяперашняй сесіяй ААН, з'яўляецца ўсё больш паглыбляючыся ўнутраны раскол гэтай арганізацыі. ААН налічвае зараз 111 членаў. Праўдападобна, у гэтым годзе гэта колькасць не павялічыцца. Калі яшчэ ў мінулым годзе мы маглі гаварыць аб трох выразна сфарміраваных палітычных групах у рамках гэтай арганізацыі, дак зараз маем дачыненне з мноствам розных непрыязных адзін другому напрамкаў. Толькі сацыялістычныя дзяржавы захавалі сваё адзінства ў адносінах да абмяркоўваемых пытанняў. Імперыялістычныя ж дзяржавы, а дакладней кажучы, тыя, якія належаць да розных мілітарных і агрэсіўных груп, уздрыгваюцца шматлікімі ўнутранымі супярэчнасцямі. Францыя, напрыклад, праводзіць штораз больш адасобленую палітыку, якая, зрэшты, не служыць мірнай справе. З другога боку Канада, Нарвегія ці Данія, як нам здаецца, выяўляюць штораз большую эластычнасць і незалежнасць ад ЗША. Гэта нядрэнная з'ява. Дае яна, менавіта, магчымасць дасягнення прагрэсу ў вырашэнні спрэчных пытанняў паміж Усходам і Захадам.

Затое сумнай з'явай з'яўляецца паглыбляючыся раскол нейтральных дзяржаў, складаючых большую палову (59) членаў ААН. Другарадныя канфлікты паміж гэтымі краінамі аслабляюць іх згуртаванасць, якая магла б быць рашаючым фактарам у час абмяркоўвання найважнейшых пытанняў нашага часу.

Мабыць, таму правільна гавораць тыя, якія сцвярджаюць, што XVIII сесія ААН будзе сесіяй пераходнага перыяду ў жыцці арганізацыі, і што пазітыўных вырашэнняў трэба больш спадзявацца ў час непасрэдных размоў паміж Усходам і Захадам. Зразумела, што гэтыя вырашэнні наступяць толькі тады, калі Захад, а дакладней ЗША, акажуць добрую волю, так як гэта робяць сацыялістычныя дзяржавы.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

# КАБ БОЛЬШ БЫЛО МЯСА І МАЛАКА

(Працяг са стар. 1)

быць у шырокім маштабе прамысловы высокаякасны корм на выгадных заменных умовах. За 100 кілаграм жыта або ячменю ў замен можна будзе атрымаць 80—90 кілаграм (у залежнасці якой) мяшанкі. Замена пшаніцы яшчэ карысней шая. За 100 кілаграм пшаніцы атрымаецца 100—105 кілаграм мяшанкі для свіней.

Ад 15 кастрычніка будзе аднолькавы цэннік скупу кармнікаў на ўсёй краіне.

Цэны скупу малака многа год утрымоўваюцца на тым самым узроўні, у той час калі цэны скупу іншых сельскагаспадарчых прадуктаў значна ўзраслі. Гэта адна прычына. Другою з'яўляецца матэрыяльная зацікаўленасць. І таму ад 1 кастрычніка за кожны літр малака сяляне будуць атрымоўваць на 25 грошы даражэй. Падвышка гэтая пабольшыць даходы сялян прыблізна на 1 мільярд злотых у год.

Апрача таго жывёлагадоўцы быдла атрымаюць ад дзяржавы дадатковыя надзелы корму за дастаўку малака. І далей будуць утрыманыя льготы за гадоўлю цялят і яловак у абавязковых пастаўках на Заходніх землях, у спулдзельнях прадукцыйных, а таксама для членаў воднамеліярацыйных суполак ва ўсёй краіне.

Згодна з палітыкай інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі і ўзняцця на вышэйшы ўзровень сельскагаспадарчай культуры, дзяржава наша ў надыходзячым годзе забяспечыць сялян большай колькасцю мінеральных угнаенняў, рознымі сельскагаспадарчымі машынамі, кваліфікаваным зернем, а таксама будаўлянымі матэрыяламі. Агулам інвестыцыйныя выдаткі дзяржавы на сельскую гаспадарку будуць у будучым годзе на 30 працэнтаў большыя, як у бягучым годзе і замкнуцца сумай каля 13 мільярдаў злотых.

Збольшаная дапамога дзяржавы ў забеспячэнні корму, падвышка цэн у скупе малака і аднолькавы цэннік у скупцы кормнікаў, гэта вялікія намаганні дзяржавы ў тым напрамку, каб пабольшылася жывёлагадоўля і ўся сельскагаспадарчая прадукцыя. У пары з гэтым павінны ісці збольшаныя намаганні ўсіх сялян, ПГР-аў, сельгасгурткоў, водных суполак, сельскагаспадарчай службы і ўсіх арганізацый на максімальнае выкарыстанне ўсіх кармавых магчымасцей і накапленне іх на перыяд зімовы і веснавы. Неабходна як найбольш падрыхтаваць сіласаў, карыстацца сучаснымі метадамі рацыянальнага кармлення жывёлы. Трэба помніць, што збожжа на корм для жывёлы нельга ўжываць, а заступаць яго мяшанкамі.

На збольшаную дапамогу дзяржавы сяляне павінны адказаць выкананнем абавязковых паставак збожжа і мяса і заплачэннем падаткаў. Сялянам неабходна смялей пашыраць пасевы каштоўнейшымі культурамі, да якіх між іншым залічаюцца пшаніца і ячмень. Будзе ўведзена цяпер кантрактацыя пшаніцы на карысных умовах для гаспадароў, да чаго неабходна масава прыступіць.

Неабходна таксама пабольшыць пасевы канюшыны і люцэрны, бо гэтыя расліны вельмі багатыя ў бялко. Добра платнай культурай з'яўляецца таксама цукровы бурак. Ён становіць і каштоўную крыніцу корму. Для плантатараў цукровых буракоў будуць паднесены аплаты за давоз буракоў на пункты скупу, паправяцца ўмовы атрымання задатку і будуць выдавацца большыя колькасці выслодкаў.

Бягучы гаспадарчы год больш як які-небудзь іншы паказвае на патрэбу пашырэння пасеву раслінамі з вялікім працэнтам бялка, а таксама пашырэнне пасеваў паплёнаў. Абавязкам сельскагаспадарчай службы з'яўляецца шырокая папулярызацыя сярод гаспадароў спосабаў падрыхтоўкі сіласаў і рацыянальнага скармлівання аб'ёмістых кармоў.

Вось гэтыя задачы вынікаюць з успомненай прамовы Уладзіслава Гамулкі. Ажыццяўленне гэтых задач прычыніцца да ліквідацыі часовых недахопаў малака і мяса на ўнутраным рынку.

# Хроніка

■ 14 верасня Дзяржаўная рада ПНР выбрала Рамана Замброўскага намеснікам старшыні НІК, адклікаючы з гэтай пасады Ежы Мараўскага.

■ 15 верасня ў Познані адкрыты XII Краёвы кірмаш — «Восень 63». Бярэ ў ім удзел звыш 6-ці тысяч вытворцаў.

■ 15 верасня ў Варшаве закончыў сваю працу IX усеагульны з'езд гісторыкаў Польшчы.

■ 13 верасня ў Беластоку абрадаваў Ваяводскі камітэт па справах сельскай гаспадаркі. Пленум камітэта разглядаў справы далейшага развіцця жывёлагадоўлі на Беласточчыне.

■ 14 верасня ў Беластоку адбылося ўрачыстае адкрыццё асветнага года у Рабочых універсітэтах Саюза сацыялістычнай моладзі ва ўсёй краіне. На Беласточчыне дзейнічае 6 рабочых універсітэтаў. Адзін з лепшых знаходзіцца ў Гайнаўцы. У мінулым годзе ў рабочых універсітэтах Беласточчыны было каля 8 тысяч слухачоў.

■ 10 верасня ў Беластоку адбылася нарада старшынь і сакратароў павятовых камітэтаў фронта адзінства народа. Нарада была прысвечана справам рэалізацыі грамадскіх абавязкаў, прынятых насельніцтвам Беласточчыны ў сувязі з Годам Беластоцкай зямлі і 20-цігоддзем Народнай Польшчы.

■ 16 верасня ў Беластоку адбылася XIII сесія Ваяводскай Рады Народовай. Прысвечана яна была справам развіцця асветы і школьніцтва ў бягучай пяцігодцы.

■ 13 верасня прыехаў у Беласток на гастролі калектыў філармоніі з Дрэздэна.

■ 15 верасня жыхары Беластока віталі салдат падляшскай часці КБВ, якія вярталіся з летніх заняткаў.

# Спорт

Несумненна спартыўнай падзеяй № 1 у мінулым тыдні быў матч лёгкаатлетаў РСФСР, ГДР і Польшчы ў Маскве. Наша каманда перамагла спартсменаў РСФСР 127,5:84,5 і нямецкіх лёгкаатлетаў 124;87. Вялікае дасягненне! Сапраўдны трыумфальны марш нашай спартыўнай каралевы. Гэта бліскучая перамога прыйшла ў выніку поўнай мабілізацыі цэлай каманды. Прыйшла яна, можна сказаць, планава, бо ў сувязі з падрыхтоўкай да алімпійскіх гульняў у Токіо, якія, як вядома, адбудуцца наступнай восенню, менавіта на восень і шліфавалася каманда. План вытрымаў добры экзамен.

Футбольныя баталіі, якія прайшлі ў цяні змаганняў лёгкаатлетаў, не прынеслі вялікіх неспадзянак. У I лізе па-ранейшаму, лоб у лоб, ідуць тры сілезскія каманды: Шамберкі, Гурнік, Заглэмбе. У II лізе, як можна было прадбачыць, Люблінянка ўступіла першае месца Кракавіі, якая, здаецца, узяла напрамак на I лігу. Гэта не будзе лёгкай справай. За плячыма цёплае дыханне цэлай групы каманд, якія таксама не супраць авансу.

У беластоцкай лізе справа ясная. Мазур адарваўся на ачко ад найбліжэйшага суседа, нурэцкіх гусараў, і хіба ў наступным матчы павялічыць разрыў, бо якраз сустракаецца з Гусарам, і то ў сябе. Нягледзячы на ненадзвычайную форму, у якой мы бачылі элцкіх футбалістаў у апошніх матчах, цяжкасцей з умацаваннем першага месца не павінны яны мець. Але футбол, гэта неспадзянкі. Некаторыя каманды нават «спецыялізуюцца» ў гэтым. Гэта можна сказаць, напрыклад, аб мінскіх дынамаўцах. Пасля няўдачных выступленняў з аўтсайдэрамі, беларусы выйгралі 2:0 у Маскве з ЦСКА і ў сябе з такім жа лікам перамаглі Малдову. Цяпер мінчане займаюць добрую чацвёртую пазіцыю. Ці змогуць на фінішы ўвайсці ў першую тройку? Наўрад. Але ў футболе шмат сюрпрызаў, так што не будзем гадаць.

Ант




Праз дзве гадзіны пасля сустрэчы Аскера з Зейфертам і Упіцам у домік Тамары Штыравай прыслалі тэлеграму. Тэкст быў самы бяскрыўдны, але капітан Люлько расхваляваўся. Ён склаў кароткую шыфроўку, перадаў Тамары, сам жа сабраўся і выйшаў.

Некалькі гадзін пасля, глыбокай ноччу з аэрадрома паблізу Варшавы паднялася тройка цяжкіх транспартных машын. У паветры звяно транспартнікаў сустрэлася з групай бамбардзіроўшчыкаў, якія ішлі на захад. Бамбардзіроўшчыкі расступіліся, і грузавыя самалёты занялі месца ў цэнтры строю.

Кутна... Конін... Познань... Цяпер яшчэ некалькі дзесяткаў кіламетраў — і Берлін. Па камандзе флагмана самалёты скрунулі на поўнач і абыйшлі Берлін. Неўзабаве далёка знізу мільганулі рэдкія агеньчыкі. Штурман вядучай групы адзначыў: па

249

дарозе Эльсвальдэ — Вітэнберге рухаецца калона аўтамашын. Бамбардзіроўшчыкі прайшлі над калонай, не ўдастоіўшы яе ўвагай. Затым бліснула Эльба. Самалёты ўзялі яшчэ больш на поўнач і пайшлі над ракой. Яны мінулі Остбург, таксама не спыняючыся над ім... Наступны вялікі населены пункт быў Карлслуст. Самалёты ішлі туды.

Група выйшла на цэль незадоўга да світання. Першы ўдар быў нанесены па сістэме супрацьпаветранай абароны. Затым самалёты разбамбілі аэрадром, які быў размешчаны на паўночна-захадзе ад Карлслуста.

У разгар бамбёжкі тройка транспартных самалётаў каўзанула ўбок і на малым газе прайшла да парослага лесам яру, які цягнуўся ў некалькі кіламетраў ад аэрадрома. З яру замільгаў ліхтарык. Сігналіў капітан Люлько. На гэты арыенцір самалёты скінулі першы атрад парашутыстаў.

На заканчэнне бамбардзіроўшчыкі ўлажылі серыю стокілаграмных бомб на паўночна - ўсходняй ускраіне Карлслуста, дзе было некалькі прамысловых прадпрыемстваў, і далей — у напрамку леса на беразе Эльбы, паблізу моста і скрыжавання дарог.

*

Раніцай ад'ютант далажыў генералу Упіцу, што выкліканы працаўнік прыбыў з Остбурга і чакае.

Упіц загадаў яго ўвесці. У кабінет увайшоў штурмфюрэр Адольф Торп.

250

Упіц дазволіў яму сесці і пачаў гутарку.

— Выкліканы па важнай справе, — сказаў ён. — Аб тым, што бамбяць Карлслуст, ведаеце?

— Так.

— Улічыце: бамбяць рускія.

— Няўжо не янкі? — Торп быў здзіўлены.

— Рускія, — паўтарыў Упіц. — У гэтым - та і справа. За чатыры апошніх дзён чатыры налёты. Дзейнічаюць так нездарма. Па ўсяму відна, што мы былі надта самаўпэўнены.

І Упіц расказаў Торпу аб сакрэтным сховішчы.

— Разнюхалі, але не ведаюць дакладна, дзе тайнік — сказаў Торп. — Або страцілі надзею да яго дабрацца. Вось і мацаюць, каб выявіць. Гэта не выпадкова, што бамбяць і магістралі, якія ідуць на захад. Намагаюцца вывесці іх са строю, каб не дапусціць эвакуацыі тайніка. З трох дарог ужо разбіты дзве. Тарапяцца...

Упіц маўчаў.

— А што, калі ў Карлслуст перабраўся той самы разведчык рускіх? — асцярожна спытаў Торп.

— Краўзе - Губэ?

— Так.

— Магчыма. Я вас таму і выклікаў. Адпраўляйцеся ў Карлслуст. Там будзе сур'ёзная справа. Едзьце і добра пашукайце ў горадзе.

— Але я гэтага Краўзе бачыў толькі раз, ды і то ад спіны.

— Усё роўна, Торп. Адпраўляйцеся. Кюметц і іншыя склалі слоўны партрэт. І ён у вас. Я такса-

251



## У СУХАВОЛІ

Невялічкае мястэчка ў Дуброўскім павеце. Сухаволя. Пад зялёнымі ліпамі сярод кветак звычайны камень на бетоннай магіле. Мрамарная дошка інфармуе: «Вечная слава героям Чырвонай Арміі, загінуўшым за вызваленне Сухаволі».

Цяпер мястэчка паспяхова развіваецца. Яго жыхары шмат працуюць грамадскім чынам. Працягнулі новую маставую і тратуары, будуюць дом культуры.

Фота **В. Рудчык**

# ПОЗІРК У ГЛЫБІНЮ СУСВЕТА

### САВЕЦКІЯ ВУЧОНЫЯ ВЫМЕРАЛІ АДЛЕГЛАСЦЬ ДА САМАЙ ДАЛЁКАЙ «РАДЫЁЗОРКІ».

Усё далей рассоўваюцца межы даследаванай часткі Сусвету. І вось новы рэкорд: вымерана адлегласць да нябеснага цела, якое аддалена ад нас на 10 мільярдаў светавых гадоў! Прамені святла, што прыходзяць да нас цяпер ад гэтага касмічнага аб'екта, пакінулі яго тады, калі яшчэ не існавала не толькі Зямля, але, напэўна, і Сонца.

Як жа ўдалося вымераць гэту фантастычна вялікую адлегласць? На гэта пытанне адказвае навуковы аглядальнік агенцтва друку Навіны, кандыдат фізіка - матэматычных навук **Ігар Новікаў.**

Да апошняга часу самымі яркімі аб'ектамі ў Сусвеце лічыліся галактыкі — гіганцкія зоркавыя сістэмы, якія ўтрымліваюць часам сотні мільярдаў зорак. Яшчэ ў дваццатых гадах нашага стагоддзя амерыканскі астраном Хабл адкрыў, што галактыкі аддаляюцца адна ад адной з велізарнымі скарасцямі і чым большая адлегласць, якая раздзяляе галактыкі, тым большая скорасць іх аддалення. Разбяганне галактык выклікае ў іх спектрах змяшчэнне ліній да чырвонага канца. Вызначаючы велічыню гэтага змяшчэння, вылічваюць скорасць аддалення аб'екта, а па ёй можна знайсці адлегласць да яго.

Кожная галактыка свеціць, як сотні мільярдаў сонцаў. Але, акрамя бачнага святла, усе галактыкі выпраменьваюць радыёхвалі.

Сустракаюцца галактыкі, якія выпраменьваюць радыёхвалі ў шмат разоў больш інтэнсіўна, чым звычайныя галактыкі.

Акрамя далёкіх галактык, радыёхвалі выпраменьваюць касмічныя целы, размешчаныя ўнутры нашай зоркавай сістэмы — Млечнага Шляху. Сярод усіх гэтых касмічных радыёкрыніц з дапамогай буйнейшых сучасных радыётэлескопаў былі выяўлены аб'екты, якія, як і звычайныя зоркі, не маюць прыкметных бачных вуглавых размераў і таму названы «радыёзоркамі». На небе, у тым напрамку, адкуль прыходзяць радыёхвалі ад гэтых касмічных цел, відаць слабенькія зорачкі, якія свецяцца.

Што гэта такое? Зоркі нашага Млечнага Шляху, параўнальна блізкія да нас, ці, можа быць, далёкія галактыкі, якія толькі з-за велізарнай адлегласці выглядаюць як слабыя зорачкі?

У 1962 годзе амерыканскі вучоны Шмідт, даследуючы аптычны спектр адной з такіх «радыёзорак», выявіў, што лініі хімічных элементаў у спектры моцна змешчаны ў чырвоны бок. Такое змяшчэнне можа быць, згодна тэорыі адноснасці, выклікана надзвычай моцным полем прыцягнення. Амерыканскі астраном Бэрбідж дапусціў, што «радыёзоркі» складаюцца з нейтронаў. На магчымасць існавання нейтронных зорак 30 гадоў назад указваў савецкі фізік Леў Ландау. Сіла прыцягнення на паверхні такіх зорак павінна быць у 5 мільярдаў разоў большай, чым на паверхні Зямлі! Аднак савецкія астрафізікі доктары фізіка - матэматычных навук Саламон Пікельнер, Іосіф Шклоўскі і іншыя вучоныя ўказалі, што спектр гіпатэтычных нейтронных зорак не падобны на спектр «радыёзоркі» Шмідта. Значыць, змяшчэнне ліній у яе спектры не можа выклікацца полем прыцягнення і звязана з імклівым аддаленнем яе ад Зямлі. Вылічэнні паказалі, што гэта «радыёзорка» аддаляецца ад нас са скорасцю 50.000 кіламетраў у секунду. Яе адлегласць ад нас складае паўтара мільярда светавых гадоў, і, значыць, знаходзіцца яна далёка за межамі нашай зоркавай сістэмы.

Адсюль вынікае, што сапраўдная яркасць гэтай «радыёзоркі» ў сто разоў перавышае яркасць галактык. «Радыёзорка» аказалася самым яркім касмічным утварэннем у Сусвеце.

Нядаўна Іосіф Шклоўскі ўстанавіў, што гэта «радыёзорка» аддаляецца ад нас са скорасцю $165.10^3$ кіламетра ў секунду (што складае больш як палавіну скорасці святла) і знаходзіцца на адлегласці дзесяці мільярдаў светавых гадоў! Гэта самы далёкі аб'ект Сусвету, адлегласць да якога вымерана астраномамі.

Згодна з вывадамі тэорыі адноснасці існуе мяжа адлегласцей, якія мы можам праглядаць у цяперашні час з дапамогай нават самых дасканалых тэлескопаў. Справа ў тым, што чым далей крыніца святла, тым у больш раннюю эпоху выпраменьванне павінна яе пакінуць, каб цяпер дасягнуць нас. Вывучаючы ўсё больш далёкія аб'екты, мы пагружаемся тым самым у глыбіню стагоддзяў. Але вельмі даўно шчыльнасць рэчыва ў Сусвеце была куды вышэйшай, чым цяпер. Прамені святла не маглі прабівацца скрозь значную тоўшчу шчыльнага рэчыва. Гэта кладзе рубеж той адлегласці, з якой мы можам успрымаць выпраменьванне, а сам рубеж знаходзіцца ад нас цяпер на адлегласці некалькі дзесяткаў мільярдаў кіламетраў. З цягам часу гэта адлегласць павялічваецца.

## НАСТАЎНІКАЎ УСЁ БОЛЬШ

У Бельскім павеце распачала працу ў пачатковых школах каля 40 новых настаўнікаў. Гэта сёлеташнія выпускнікі Настаўніцкай студыі, педагагічных і агульнаадукацыйных ліцэяў.

Зараз Бельскі павет мае больш настаўнікаў, чымсьці меў тады, калі яшчэ ахопліваў тэрыторыю сучасных Сямяціцкага і Гайнаўскага паветаў.

Сям'я настаўнікаў з кожным годам павялічваецца. Аднак усё яшчэ іх мала. У гэтым жа Бельскім павеце існуе 28 школ, у якіх дзяцей ад першага да 4 класаў вучыць толькі адзін настаўнік. Тым юнакам і дзяўчатам, якія захацелі б вывучаць прафесію настаўніка, сапраўды няма чаго баяцца, што можа не хопіць ім месца ў школе, што не будзе дзе працаваць. (вр)

## ТУРНІР „ДЗІКІХ”

Нядаўна па ініцыятыве спартыўнага клуба «Гвардыя» і ВК ЗМС у Беластоку быў праведзены турнір «дзікіх» каманд, мэтай якога было даць моладзі карысную гульню і адначасова вылавіць футбольныя таленты.

На здымку: адна з турнірных сустрэч на стадыёне імя Я. Кусацінскага.

Фота **К. Лес**



**Л. МАЙСЕЮК**

# „АКУРАТНЫЯ ПАШТАЛЬЁНЫ”

Шмат з нас прыпамінае хіба з савецкай пасляваеннай кінакамедыі, загаловак якой згубіўся ў памяці — постаць вясёлага пісьманосца, што, раз'язджаючы на веласіпедзе, спяваў песню, кожная страфа якой канчалася словамі: «Акуратный паштальён!» Усюды, постаць гэтага пісьманосца выклікала не толькі смех (бо кінафільм быў камедыяй), а і глыбокую сімпатыю, гэтакі ён быў вясёлы і спраўны пісьманосец! А ўспамінаю аб гэтым таму, што вось на Гайнаўшчыне 44 пісьманосцы, у якіх усе дадзеныя на тое, каб выклікаць падобную сімпатыю і вясёласць. І ў самым станоўчым сэнсе гэтых слоў! Гайнаўшчына вогуле мае дадзеныя, каб быць прыкладам іншым раёнам усяе Альштынскай акругі. Ад некалькі год яна займае ў гэтай акрузе першае месца ў міжраённым спаборніцтве на найлепшы раён. На 18 паштовых пляцовак Гайнаўшчыны пяць: у Белавежы, Нарве, Нараўцы, Чаромусе і Кляшчэлях, — гэта ўзорныя паштовыя пляцоўкі. Праведзеныя рамонты змянілі іх да непазнакі, і зараз, калі прыходзіцца наведаць іх каму-небудзь з Беластока, напрыклад, ён моцна здзіўляецца. Гэтакі тут парадак, чыстата, правідловае абсталяванне ўнутры. Тут і абслугоўванне наведвальнікаў больш адпаведнае да патрэб, як бы не было XX стагоддзя. Што праўда, сярод гэтых пяці ўзорных паштовых пляцовак няма самой Гайнаўкі, усё ж і тут неўзабаве наступіць перамена. «Ніва» ўжо аб гэтым пісала: у кастрычніку мае быць зданы ў карыстанне новы будынак для Гайнаўскай пошты, які адначасова памесціць і адміністрацыі цэлага раёна, і тэхнічны надзор радыёвузлоў і новую, павялічаную адпаведна тэлефанічную цэнтралю. Што праўда, выканаўца не паспяшаўся і ёсць падставы меркаваць, што пабудова крыху працягнецца, усё ж гэта не так важна, ды і не датычыць нашай тэмы. А тэмай нашай, як гэта відаць з загалоўка, «акуратныя паштальёны». Што вымярае працу пісьманосца? Зразумела, калі ён сапраўды працуе, гэта значыць рэгулярна дастаўляе вам лісты, ці грошы. Хіба колькасць падпісчыкаў газет. Бо як бы не было, ён першы чалавек, які сустракаецца з намі, перш, чымсьці ў рукі трапляе газета! А калі ён газеты чытае, калі сам імі цікавіцца, ясна, што і іншых да гэтага ж заахвоціць. І 44 гайнаўскія пісьманосцы назбіралі ў гэтым годзе 12 тысяч 710 падпісчыкаў. Не малы гэта лік, бо ў сярэднім, на кожнага аднаго пісьманосца выпадае 280 падпісчыкаў, што дае вынік высокага маштабу. Тут, у параўнанні з іншымі паветамі нашага ваяводства, найбольш падпісчыкаў «Нівы», таксама «Беластоцкай газеты». Тут наогул, статыстычна гаворачы, на 100 жыхароў выпадае 24,7 падпісчыкаў газет. Як не дзіўна (бо дагэтуль Гайнаўшчына не надта цікавілася сельскагаспадарчымі газетамі) зараз на тэрыторыі павета звыш паўтары тысячы пастаянных падпісчыкаў сельскагаспадарчых газет! Вынікі гавораць самі за сябе. А вось іншыя дадзеныя, якія ўжо можа не так непасрэдна датычаць пісьманосцаў, усё ж кранаюць намечанай тэмы. Менавіта справы так званай радыёфоніі, якія пошта таксама вядзе.

— У гэтым годзе ўжо выразна відаць, як лямпавыя радыёпрыёмнікі выцясняюць папулярныя яшчэ не так даўно на Гайнаўскай вёсцы «точкі». На Гайнаўскай вёсцы зараз радыёпрыёмнікаў толькі на палову менш ад «точак». А быў жа, ды і не так даўно час, калі радыёпрыёмнікі на вёсках можна было палічыць на пальцах. Першыя, мо' яшчэ крыху нясмела крокі ставіць і тэлебачанне. Зараз у павеце 130 тэлевізараў, у гэтым каля 40 штук на вёсках. А тэлефоны! Наш век не абыдзецца ўжо без іх. Яны патрэбны штораз часцей у нашым штодзённым жыцці. На Гайнаўшчыне 68 вёсак падлучана да тэлефанічнай сеткі павета. Ёсць магчымасці падлучыць і ўсе іншыя, што ж, калі не ўсюды сяляне разумеюць гэтую патрэбу.

Такім чынам можна было б вылічыць яшчэ некалькі прыкладаў добрай працы гайнаўскіх паштоўцаў. Ды насоўваецца адно пытанне: дзе ляжыць прычына добрай працы гэтай пошты? Умовы працы ў Гайнаўскіх пісьманосцаў, працаўнікоў пошты, такія ж самыя, як і ў іншых раёнах! А калі і змяніліся на лепшае, дык таксама не без прычыны гэтых жа людзей? Адказ будзе просты: невялікая армія працаўнікоў пошты на Гайнаўшчыне стварае сапраўдную, арганізаваную армію. Гэта перш за ўсё людзі з салідным стажам працы, зжытыя з поштай наогул. Ім справа гонару працаўніка пошты не пустае слова, а канкрэт, факт. Іх ведаюць усе і яны ведаюць усіх паасобна. І гэта хіба найважнейшая таямніца «акуратных паштальёнаў»!




Піяніна з маркай «Беларусь» карыстаецца папулярнасцю ў любіцелей музыкі.



Аддзелачны цэх.



Рабяты дзіцячага сада №10 горада Барысава з захапленнем іграюць на інструментах, выпушчаных Барысаўскай фабрыкай піяніна. Фота Д. ПРЭСА

# Барысаўская фабрыка піяніна

Гадзіна язды аўтамабілем ад Мінска — і вы ўжо ў горадзе Барысаве. Тут, на беразе ракі Бярэзіны, размешчаны карпусы фабрыкі, чыя марка карыстаецца шырокай папулярнасцю. Гэта — Барысаўская фабрыка піяніна. У гэтым годзе 19.000 піяніна будзе адпраўлена ва ўсе канцы Савецкага Саюза...

У светлых карпусах фабрыкі многа новай тэхнікі. Нялёгкай была раней праца паліроўшчыц і грунтоўшчыц. Зараз на дапамогу ім прышлі дасканалыя машыны з праграмным кіраваннем. Гэтыя машыны ў некалькіх варыянтах капіруюць рухі работніц.

А вось яшчэ адна навінка — лаканаліўная машына. Замяніўшы ручную працу, яна не толькі значна павялічыла прадукцыйнасць на аддзеле нітрапакрыцця, але і палепшыла якасць працы, дазволіла больш эканомна расходаваць дэфіцытную нітрапрадукцыю.

Працаўнікі тэхнічнай службы з дапамогаю ўсяго калектыва фабрыкі паспяхова вырашаюць пытанні тэхнічнага прагрэсу. Дзецішчам іх дапытлівай думкі з'яўляецца цэх механікі. Зборка механікі піяніна патрабуе не толькі тонкай работы, але і высокай адукацыі. У гэтым цэху ў асноўным працуюць работніцы, якія маюць сярэднюю адукацыю.

Прыкметнай рысай калектыва з'яўляецца пастаяннае імкненне да далейшых ведаў. У цэхах фабрыкі зараз працуе больш ста дыпламаваных інжынераў і тэхнікаў. Кожны трэці рабочы вучыцца ў навучальнай установе, або ў гуртках па павышэнні кваліфікацыі. Шматлікія з іх выраслі на вопытных спецыялістаў. Ад электраманцёра да начальніка, які кіруе піяніна-зборачным цэхам, — такі шлях Івана Паўлаўца.

...Асабліва бурнае развіццё атрымала прадпрыемства за гады сямігодкі. Каля 15 працэнтаў усіх выпушчаных у Савецкім Саюзе ў мінулым годзе піяніна прыпадала на долю барысаўчан. Цяпер штодзённа з канвеера сыходзіць 65 інструментаў. У красавіку бягучага года спажыўцу было адпраўлена юбілейнае 100-тысячнае піяніна.

Барысаўскія музычныя інструменты выходзяць за межы Савецкага Саюза. Яны гучалі на міжнародных выстаўках у Рыо-дэ-Жанейра, Нью-Дэлі, Касабланцы, Акры...

Акрамя піяніна фабрыка выпускае шырокі асартымент канцылярскіх прылад, дзіцячыя раялі і ксілафоны.

Так жыве і працуе калектыў майстраў музычных інструментаў.

ЯЎГЕНІЙ ЛУКОЎСКІ

# ПЛАСТМАСАВЫ ЧЭРАП

Гэта здарылася на адной з будоўляў Растова-на-Доне. Шафёр Міхаіл Вярбіцкі паставіў самазвал пад разгрузку, высыпаў пясок. Але на месца кузаў не ўстанаўліваўся. Вярбіцкі вылез з кабіны, каб паглядзець, што здарылася. Кузаў сарваўся і ўдарыў шафёра па галаве.

У непрытомным стане Вярбіцкага даставілі ў бліжэйшы шпіталь. У шафёра былі раздроблены і дэфарміраваны лобная косць, вочніцы, нос.

Такога цяжкага ранення галавы чалавека ніхто з растоўскіх урачоў раней не сустракаў. Пасля кансіліума за аперацыйны стол сталі кандыдат медыцынскіх навук Аляксандр Саломін, хірургі Іван Гекімян і Аляксандр Беляеўскі. Не закрануўшы абалонку мозга, урачы вынялі асколкі касцей, пашкоджаныя вочніцы і пераносіцу. З лобнай вобласці, напрыклад, была вынята косць размерам 14 на 7 сантыметраў. Вярбіцкі пазбавіўся абедзвюх вочніц і насавых касцей, а без іх чалавек жыць не можа. Аднак урачы не гублялі надзеі выратаваць параненага.

Адразу ж пасля аперацыі былі перапрабаваны многія матэрыялы, якімі можна было б замяніць усю лобна-арбітальную вобласць чэрапу. Урэшце рэшт было вырашана склеіць усе асколкі чэрапа, выдаленыя ў Вярбіцкага ў час аперацыі, па гэтай мадэлі зрабіць васковы злепак і адліць пратэз разрубаных касцей чэрапа з пластмасы АКР-7.

За выраб васковага злепку і пратэзу ўзяліся стаматолаг шпіталя Пётр Грыгараш і іншыя спецыялісты. Міхаілу прадстаяла новая аперацыя — больш складаная і цяжкая, чым першая. Трэба было на месца выдаленых касцей і чэрапу ўкласці выраблены пластмасавы пратэз.

Шэсць гадзін працягвалася другая аперацыя. Хірургі Саломін і Беляеўскі старанна падагналі пратэз, занава зрабілі вочніцы, аднавілі косці носа. Чалавек быў выратаван.

Я сустрэўся з Міхаілам Вярбіцкім у яго дома ў Растове, у пасёлку Каменка на вуліцы Бальшавіцкай, 14. Уважліва глядзеў у твар гэтага чалавека і здзіўляўся чарадзейству хірургаў: толькі невялікі рубец застаўся ад перанесенай аперацыі.

**Аляксандр Слабадзянік**
карэспандэнт АДН

# НА ХАЛОДНЫЯ ДНІ





Восень. Дні штораз халаднейшыя. Трэба цяплей апранацца. Дык пашыйце сабе вось такія блюзы. Простыя, выгодныя і, што найважнейшае, сапраўды прыгожыя! Могуць быць на свята і на буднішні дзень, а на прагулкі матацыклам — рэч незамянімая. Так прынамсі сцвярджае нямецкі журнал «Цайт ім більд», з якога мы пазычылі гэтыя мадэлі.

а—вр

ТОЛЬКІ ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ

# НОГІ

Вельмі дрэнная прывычка насіць панчохі з круглымі рызінкамі. Гэта не толькі шкодна для кровазвароту, але і вельмі непрыгожа. Месца, якое сцягвае рызінка, робіцца таней, цямнее, на ім застаецца рубец. Любая з вас можа пашыць сабе вузкі паясок з чатырма разінкамі, які не будзе дорага каштаваць і пазбавіць вас ад непрыемных вынікаў.

У маладым узросце, калі афармляюцца ногі вельмі важна насіць зручны абутак, ён павінен адпавядаць размеру нагі, г.зн. не быць вельмі вялікім, але і не маленькім. Шырокі абутак і рызінавыя тапачкі расшыраюць і дэфармуюць ногі, а пры нашэнні маленькага вузкага абутку на пятках і пальцах утвараюцца мазалі. З 15—16 год можна насіць абутак на невялікім абцасе (3 см).

НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# Следзяць адзін другога

Часопіс амерыканскіх бізнесменаў «Modern Office Procedures» нядаўна паставіў сваім чытачам такое запытанне:

— «Ці магчымы службовы аванс у манаполі або карпарацыі дасягнуты сумленнаю працаю?»

Большасць адказала:

— «Не!»

Смяртэльная барацьба паміж бізнесменамі — пачынаючы адураднікаў, а канчаючы на кіраўніках, лічыцца тут, у Амерыцы, як штосьці зусім нармальнае. У гэтакай барацьбе дазволены ўсялякія хітрасці.

Спосабаў, як «падставіць нагу» свайму канкурэнту ёсць многа. Праведзена спецыяльную анкету сярод пяцідзесяці кіраўнічых працаўнікоў розных карпарацый у 12 гарадах Амерыкі. Аказалася, што ў барацьбе за «карыта» шырока выкарыстоўваюцца наркотыкі, якія падсыпоўваюць у чарку канкурэнта, каб, такім чынам, асмяшыць яго.

Намеснік старшыні адной карпарацыі задумаў пазбыцца свайго небяспечнага канкурэнта. Перад першым пасяджэннем праўлення карпарацыі знішчыў карбюратар у яго аўтамашыне. Вядома, канкурэнт спазніўся на пасяджэнне і шэфы былі раззлаваны на яго.

Наступны прыклад. Трох кіраўнікоў адной многамільённай фірмы працавалі праз нейкі час у згодзе і шмат зараблялі. Аднак, аказалася, што адзін з іх мае незвычайныя адміністрацыйна-фінансавыя здольнасці. Тады двух кіраўнікоў задумала пазбыцца гэтага трэцяга і падзяліцца між сабою ягонымі даходамі. Нанялі яны прыватных дэтэктываў, каб тыя знайшлі спосаб для кампраметацыі канкурэнта. Дэтэктывы перад усім наладзілі падслухоўванне тэлефонных размоў. Але ніякіх кампраметуючых матэрыялаў не здабылі. Тады кіраўнікі папрасілі сваіх дэтэктываў устанавіць падслухоўванне ў службовым кабінеце «калегі».

У разетцы, у сцяне яго кабінета ўстаноўлена малюткі магнітафон, які запісваў на ленце кожную размову. Выявілася, што гэты чалавек надта любіць размаўляць са сваёю сакратаркаю. З такіх штодзённых пагаворак недвухзначна вынікала, што ён знаходзіцца ў вельмі блізкіх адносінах з ёю. Здабыўшы гэтакі «довад» кіраўнікі пайшлі да свайго «калегі» і патрабавалі ад яго, каб адрокся ад пасады, калі не хоча быць скампраметаваным.

Зрэшты, крах ласуна дзявочых прывабнасцей не належыць да шумных афёр. Існуе яшчэ другі спосаб барацьбы паміж «вялікімі» людзьмі бізнесу. Разыходзіцца тут аб, так званы, прамысловы шпіянаж («ПШ»), які з'яўляецца таксама вялікім бізнесам у сучаснай Амерыцы. На службе «ПШ» знаходзяцца тысячы агентаў, якія жывуць толькі з таго, што выкрадаюць ад канкурэнцыйных фірмаў прадукцыйныя таямніцы.

Праблема прамысловага шпіянажу ў Злучаных Штатах Амерыкі настолькі пільная, што прамыслоўцы стварылі «Амерыканскае Таварыства прыхільнікаў бяспекі ў прамысловасці», якое занялося барацьбою супроць «ПШ». Восенню мінулага года адбыўся з'езд гэтага таварыства, на які прыбыла 2.490 яго праўдзейных членаў — прадстаўнікоў аддзелаў таварыства, што знаходзяцца ў 58 гарадах ЗША.

Разгарэлася вайна між «ПШ» і «Контр-ПШ».

Найбольшай удачай у «ПШ» лічыцца перахват таямніцы рэцэптуры або новых тэхналагічных апрацовак канкурэнта.

а-ся

 

## КУР'ЁЗЫ

### ПЕРШЫ КЛІЕНТ

Уласнік супер навейшай механічнай пральні ў Канзас Сіты (ЗША) аб'явіў у дзень адкрыцця свайго прадпрыемства, што першы яго кліент атрымае прывілегію дарэмнага карыстання з яго пральні. Першым кліентам аказаўся інтэрнат, у якім пастаянна пражывае і брудзіць бялізну 1200 дзяцей. (а-вр)

### ЗНАЁМЫЯ

На прыёме ў Елізейскім палацы прэзідэнту Францыі дэ Голю прадстаўлена вядомага пісьменніка Роберта Хірша.

— Бачыў я вас ужо ў праграме тэлебачання, — заявіў прэзідэнт, думаючы справіць пісьменніку прыемнасць.

— Я вас таксама, — адказаў не збянтэжаны пісьменнік. (а-вр)




## З ЗАПІСНЫХ КНІЖАК

По недгляду выдавецтва закралася ў свет добрая кніга.

* * *

Ніколі не мяркуйце аб пісьменніку па яго кнігах. У жыцці ён можа быць разумнейшым.

* * *

У дзяцінстве і арбузы былі смачнейшыя, і неба галубейшае, і футбалісты лепшыя.

* * *

— Наогул такую знявагу змываюць крывёю, але я гатоў узяць грашыма.

* * *

Быць дзядулем нават прыемна. Сумна быць мужам бабулі.

* * *

Выходзячы, дзядзька з прыемнасцю пацалаваў прыгожанькую жонку пляменніка. У дзвярах задумліва павярнуўся і спытаў.

— Я са ўсімі развітаўся?

— Са ўсімі, са ўсімі! — паспешна запэўніў пляменнік.

**«Кракадзіл»**

### НАВОШТА ЯЙКІ

Амерыканскі сенатар зайшоў у бакалейную краму і запатрабаваў прадаць яму ўсе яйкі, якія там былі.

— Напэўна, вы ідзеце на мітынг? — спытаў у яго крамнік.

— Так, іменна мне даручана сказаць прамову, — адказаў сенатар.

## МУХАБОЙНАЯ ГІСТОРЫЯ

Кастусь, увайшоўшы да сакратара грамадскай рады, убачыў на сцяне плакат «Знішчайце мух». Прыглядзеўшыся бліжэй ваўнічаму плакату, Кастусь папрасіў:

— Будзь сябрам, сакратар, падары мне гэты плакат.

— Друкаваная муха спадабалася? — спытаў сакратар.

— Жартачкі! Павешу плакат у хаце, злякаюцца мухі і выберуцца к чорту ў зубы.

— На мухі ёсць іншыя сродкі...

— Ведаю, ведаю, — спыніў Кастусь сакратара. — З мушыным родам я знаёмы. У гарадскім пакоі павесіш ліпную стужку і парадак. У вёсцы трэба нішчыць мухі ў хаце, у хляве і на кучы гною. Інакш не дасі рады ім.

— У старыя часы быў мухабойны апарат, сцёртая падэшва прыбітая да кіёчка, — успомніў сакратар.

— Старына матухна! Махаючы гэтай шлёпаўкай нагоніш вецярок, каб на гнаі мухам не было горача, — адказаў скептычна Кастусь і дадаў: — Мышалоўкі ёсць, а практычных мухаловак няма.

— Ёсць іншыя сродкі, — сказаў сакратар. — Напрыклад, дымавыя таблеткі. На пбудня закрываеш памяшканне і па мухах.

— Не падыходзіць, — засупрэчыў Кастусь. — У хляве, у дыме, разам з мухамі акачурыцца карова. У суседняй вёсцы адзін падпаліў таблетку ў хаце, закрыў вокны і дзверы. Згарэла хата.

— З мухамі?

— Дзе там! У новую хату наляцела мух яшчэ больш. Пасяліліся і тыя, што ратаваліся ад пажару, і тыя, што іх ратавалі.

— Таак... — азадачана працягнуў сакратар і потым наўпэўнена сказаў: — Можна ўзяць «Азатокс».

Кастусь паківаў галавой і адказаў:

— Узяць можна. Але «Азатокс» у парашку вецер змяце з гною. Мухі будуць смяяцца. Вадкага «Азатоксу» зноў не набярэш у рот і не распрыскаеш.

У гэты час з'явілася ў дзвярах жонка Кастуся і ад парога закрычала:

— Сама зраблю парадак у хляве! Вымажу смалой карову, вось мухі і папрыліпаюць.

— А ў хаце? — прыпомніў Кастусь.

— Мой муж спраўляецца з сямейнымі абавязкамі, а з мухамі справіцца не можа, — заўважыла Кастусіха, звяртаючыся да сакратара.

Кастусь (пачырванеўшы) адказаў:

— У індускага бога Шыві шэсць рук. Ён мог бы адной рукой абнімаць жонку, другой рукой лавіць мухі, трэцяй...

Сакратар спыніў Кастуся і звярнуўся да Кастусіхі:

— Добры ў вас муж, гаспадарны, нават цікавіцца мухамі.

— Добры, — згадзілася Кастусіха. — Найлепшы сярод дрэнных. — І беручы Кастуся пад руку, дадала: — Пойдзем дамоў, мой добры. Няма чаго час траціць. Наш сакратар не начальнік над мухамі.

Дзядзька Лявон

## ДУМКІ ЯСЬКІ АПАЛОНІКА

— Каб яе халера ўзяла, яна мне мужа забрала! — праклінаюць бабы гасподу.

*

У п'яніц пасажныя авечкі воўк у белы дзень з хлява цягае.

*

Як п'яніцу выбралі старшынёю супрацьалкагольнага камітэта, ён вельмі ўрачыста адкрыў першае пасяджэнне... ў гасподзе.

*

У вёсцы адна вуліца, а Мацей не можа трапіць на свой панадворак.

### РЭШТА

Абвінавачаны просіць слова. Суддзя гаворыць:

— Добра, але гаварыце толькі праўду. Рэшта — гэта справа вашага адваката.

### ЭКЗАМЕН

Прафесар да студэнта:

—Што, вы зноў прыступаеце да экзамену? Колькі разоў вы ўжо правалілі?

— Сёння будзе чацвёрты.

### КАЗАЎ КАРАСЬ КАРАСЮ

— Ну і збрыдла мне жыць у гэтай гразі, — скардзіўся карась карасю.

— А ты схапіся за кручок, — параіў той. — і адразу ж трапіш у смятану!..

### НА ЯКОЙ ВУЛІЦЫ

Аднойчы ў вячэрняй школе на ўроку настаўнік спытаў:

— Скажыце, Іванюк, што зараз дзеецца ў Парыжы?

Той доўга думаў, потым падыйшоў да настаўніка і спытаў на вуха:

— А на якой вуліцы?

### ПРАДБАЧЛІВЕЦ

**З народных добрых і благіх прыкмет**
**Адну дакладна вызначаў паркет:**
**— Калі начальства важнае чакаюць,**
**Тады мяне старанна націраюць!**

**Алесь Махнач**

БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

**— Што ты, дачушка! У такі грыпозны час...**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Станіслава Нікадона** з Паслэнка, змяшчаем папулярную савецкую песню (першае месца на сёлеташнім фестывалі ў Сопаце).

## ХАЙ ЗАЎЖДЫ БУДЗЕ СОНЦА

Словы Л. Ашаніна
Пераклад А. Вольскага
Музыка А. Астроўскага

Сонечны круг,
Неба наўкруг —
Хлопчыка першы малюнак.
Намаляваў
Ён на лістку
І падпісаў на ражку:
ПРЫПЕЎ:
Хай заўжды будзе сонца,
Хай заўжды будзе неба.
Хай заўжды будзе мама,
Хай заўжды буду я! (2 разы)

Любы мой друг,
Добры мой друг,
Хочуць працоўныя міру.
У сэрцах у нас
І ў трыццаць пяць
Не перастане гучаць
ПРЫПЕЎ.

Ціха, салдат,
Чуеш, салдат, —
Выбухаў людзі баяцца,
У неба глядзяць
Пільна яны,
У кожнага думкі адны:
ПРЫПЕЎ.

Супраць бяды,
Супраць вайны
Станем за хлопчыкаў нашых.
Сонца навек,
Шчасця навек,
Так загадаў чалавек!
ПРЫПЕЎ.



 